Год IV. Жнівень-Верасень 1935 г. № 8-9(44-45)




БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.

ВІЛЬНЯ

Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

ЗЬМЕСТ:



„Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопісь.**

Цана асобнага нумару 20 гр.

Падпіска на паўгода. . . . . 1 зл.

„ год . . . . . 2. „

Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі:

O. Antoni Niemancewicz
Dubno, Seminarjum Papieskie.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul. Wielka Pohulanka 6.
Konto czekowe P.K.O.: O. Paweł Macewicz 60.601.
Skrytka pocztowa Nr. 245.

Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1.

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопісь.

Вільня. Жнівень-Верасень 1935 г. № 8-9 (44-45).

# Праабражэньне Госпадава
## (Спас).

*ЭВАНГЕЛЬЛЕ*
*ПАВОДЛЕ СЬВ. МАЦЬВЕЯ РАЗЬДЗ. 17, 1—9;*
*ЗАЧАЛА 70.*

*1. Таго часу ўзяў Ісус Пётру і Якава і Іоана, брата яго, і ўзьвёў іх адных на высокую гару.*

*2. І перамяніўся перад імі: і заясьнеў твар Яго, як сонца, а адзежа Яго была белая, як сьвятло.*

*3. І вось паказаліся ім Майсей і Ільля і гаварылі з Ім.*

*4. А Пётра, зьвярнуўшыся да Ісуса, сказаў: Госпадзе, добра нам тут быць! Калі хочаш, зробім мы тут тры палаткі: Табе адну, Майсею адну і Ільлі адну.*

*5. Калі-ж ён яшчэ гаварыў, дык сьветлая хмарка ацяніла іх; і вось голас з хмары, кажучы: Гэты ёсьць сын мой узьлюблены, у каторым Я ўпадабаў: Яго слухайце!*

*6. А пачуўшы, вучні ўпалі на твар свой і вельмі спалохаліся,*

*7. І прыступіўшы, Ісус даткнуўся да іх і сказаў: Устаньце і ня бойцеся!*

*8. А падняўшы вочы свае, ня бачылі нікога, апрача самога Ісуса.*

*9. Калі-ж зыходзілі з гары, забараніў ім Ісус, кажучы: Нікому не расказвайце аб тым, што вы бачылі, аж пакуль Сын Чалавечы не ўваскросьне з памёршых.*

---

Ужо мінула тысяча дзевяцьсот гадоў ад тае пары, калі Госпад Ісус Хрыстос склікаў сваіх вучняў, як з імі гаварыў, аб іх рупіўся.

Ужо не назаву вас слугамі, — але прыяцелямі.

А прыяцелем ёсьць той, хто стаіць пры ўяве чалавека, пры яго сэрцы, пры яго душы.

Сьвятое Пісаньне кажа, што чалавек за ўзьлюбленую рэч сваю аддае ўсё багацтва дому свайго.

Для ўзьлюбленай істоты ня жаль пасьвяціць нават найпатрабнейшае рэчы, і ня толькі, што гэта ня прыкра, але прыемна.

Любоўю вечнай палюбіў Ісус Хрыстос сваіх вучняў. Калі былі змучанымі, ён ім служыў. Калі заснулі, ён маліўся і няраз начаваў на малітве Божай. І вось зьбліжаецца апошні яго мамэнт, зьбліжаецца проба іх слабой веры.

Пойдзем у Ерусалім, а Сын Чалавечы выданы будзе ў рукі грэшнікаў, а яны Яго паніжаць, стопчуць як чарвяка, лічыць будуць апошнім з людзей. Будуць насьмяхацца, аплююць і павесяць на дрэве крыжа.

Трэба будзе сільнай веры, каб не пайсьці блудна і дзеля гэтага Збаўца наш бярэ верных вучняў сваіх з сабою і паказвае ім сваю славу.

Майсей і Ільля гавораць з Ім. Зьдзіўленыя блескам, вучні падаюць на зямлю.

Кажуць толькі: „Госпадзе, добра нам тут быць"!

Бог ня ўсім давярае свае тайніцы, толькі выбраным. Хрыстос бярэць з сабою ня ўсіх — толькі трох выбраных.

Пётра — гэта нязможаны апостальскі дух.

Іоан — чысьціня.

Якаў — ахвярнасьць у службе Божай.

Хто хоча быць выбраным прыяцелем Бога, той усё гэта мусіць мець у сваёй волі, у сваіх пачынаньнях і ў сваіх малітвах.

Натура наша, як узбураная вада, цягне нас за сабою. Мы волі Божае не разумеем. І апосталы не разумелі цуду міласьці Божай.

Апосталы хацелі, каб ім заўсёды было прыемна. І праабражэньне ў Сьв. Літургіі не заўсёды ёсьць выкарыстанае.

Заместа хвалы Богу, у нас неапраўданая халоднасьць!

Браты дарагія! І вы прыходзьце да Ісуса, часта прыходзьце на Сьв. Літургію, прыходзьце каб пакланіцца Сьвятым Даром, каб у дзень пакусы ня згубіць Бога.

Дзіўная была тая часіна, калі Хрыстос апошні раз гаварыў з вучнямі.

Сьлёзы, як каплі раньняй расы гаварылі аб прывязанасьці Яго да іх.

Праз вокны відненіся вячэрнія воблакі.

Зіхацелі зоркі, як-бы тысячы вачэй.

— Дзеткі! Коратка я буду з вамі. Куды я іду—вы пайсьці ня можаце.

Як матка, аб дзецях руплівая, Госпад Ісус Хрыстос кажа: „не пакіну вас сіротамі“.

У глыбокіх нетрах сваей душы знайшоў спосаб астацца з намі. Вось дзе пачатак Сьвятой Літургіі.

Усё на сьвеце ёсьць бязвартаснае, часовае, хутка мінаючае, напаўняючае сэрца нашае пустатой. Сьв. Літургія ёсьць толькі вечная.

Тры рэчы ёсьць годныя дзіва. Гэта стварэньне, уцялесьненьне і Сьв. Літургія.

Калі Бог стварыў сьвет, дык быў хаос і вось голас Божы з нічога выводзіць прыгожы сьвет.

Калі архангел абвясьціў Найчысьцейшай Дзеве, што будзе Маткай Сына Божага — Бог паслухаў Прачыстае Дзевы — на кожнай Сьв. Літургіі Бог слухае грэшнага чалавека — родзіцца на аўтары.

Кожная цэркаўка — гэта Віфлеемская стайня. Родзім Яго словамі, кормім Яго любоўю, навернутымі грэшнікамі.

Страшэнна дзіўнай ёсьць тайніца ахвяры Сьв. Літургіі. Як мы маем збліжацца да аўтара? — Найперш з верай. „О, чалавечы розуме — ты маленькі прад Богам. Ты — капля ў яго ўсемагутнай далоні“.

Розумам чалавечым мы неба прабіць ня можам.

Няма памосту паміж Богам і людзьмі — ёсьць адна толькі дарога веры.

Жанчына, што 12 гадоў хварэла цячэньнем крыві, дакранулася да Госпада Ісуса.

— Хто да мяне дакрануўся? — пытаецца Ісус.

— Грамады тоўпяцца і ціснуць, а Ты пытаешся, хто да цябе дакрануўся.

— Хтось дакрануўся, бо моц Божая выйшла з мяне.

Хрыстос шукае не грамадаў, толькі душаў, каторыя да Яго дакранваліся-б верай.

Навернены сьв. Павал пытаецца: — „Што хочаш, каб рабіў?“ Мы гэтага пытаньня баімося.

Аднак-жа пытаймася ў Хрыста з верай, бо „неспакойнае ёсьць сэрца нашае, аж пакуль не спачнець у Табе“.

Вось цяпер адыходзім дамоў. Разам з апосталамі можаце паўтарыць: Госпадзе! добра нам тут быць!

Злы дух расстаўляе свае сеткі на нас... памятайма, што наступныя рэчы ёсьць горшыя, чым першыя. Мы слабыя, бяссільныя сярод сьвету. І дзеля гэтага прасем Госпада Ісуса Хрыста, каб заўсёды быў з намі.

Прыдзі, Госпадзе Ісусе, будзь з намі і пацеш нас.

Калі будзем маліцца, будзь з намі і вучы нас маліцца так, як ты маліўся на гары Аліўнай, паддаючыся волі Божай!

Калі будзем працаваць, будзь з намі так, як Ты працаваў, памагаючы сьв. Язэпу!

Калі будзем у дарозе, будзь з намі так, як дакляраваў нам!

Калі цешыцца будзем, будзь з намі так, як ты цешыўся, калі быў на вясельлі ў Кане.

Калі сумнымі будзем, будзь з намі.

Калі хварэці будзем, будзь з намі.

Калі сэрца нашае накормяць няўдзячнасьцяй і здрадай, — калі вострыя жыцьцёвыя калючкі заціскацца будуць, — калі сумляваньні, як халодны вуж, улазіць будуць да душы нашае, — калі сонца пацехі мець ня будзем, — калі ўсё і ўсе адвернуцца ад нас, — калі вясна нашага жыцьця мінула бяз красак — лета прайшло незаўважанае, а восень сумная надходзіць. На ложы сьмерці ў рукі Твае аддаём труды нашы і надзеі. Калі вочы нашы гаснучыя, стварэньняў ужо болей ня ўбачаць, Божа! Хай душа знайдзецца ў Праўдзе.

Калі халодных нашых рук падняць магчы ня будзем, Ты, Божа, будзь падпорай нашай. Калі для вушэй нашых замруць гукі і галасы — няхай душа мая пачуе голас Твой, Божа.

Калі вусны нашы заціхнуць назаўсёды — няхай душа наша цэлай істотай сваей здолее прашаптаць; — Божа, я люблю Цябе! Калі апошняя нітка, што лучыць нас з целам, будзе парванай.

О Божа! Няхай душа, як галубка, узьляціць да Цябе, каб пяяць з псальмістым: Прачхнецеся — лютня і арфа, калі вас на зараніцы паклічу. Выслаўляць буду, Цябе Божа, паміж людзьмі, а пяяць буду паміж народамі!

Большае за нябёсы Тваё міласэрдзе, а пад воблакі праўда Твая (Пс. 107, 3).

О, як мілыя сьвятыні Твае, Божа войскаў нябесных! (Пс. 83).

Калі сьцежкі нашага жыцьця стаптанымі будуць, а магільная ціша нас абкружыць і памяць аб нас загіне.

Віхры васеньнія памяткі па нас раскінуць, а душы нашы аглядацца будуць на тых, што асталіся.

О, Ісусе! Будзь з намі! Пакажы нам сваё аблічча на кожны дзень, каб, гледзячы на тваё праабражэньне, атрымалі перамену цёмнай нашай падарожы на яснату вечную. Амін.

*Съвяшч. Р. Д.*



# Антыхрысьціянскі рух у Нямеччыне.

Трудна разабрацца ў рэлігійным лябірынце сучаснае Нямеччыны. Там зьявілася гэтак шмат сэктаў, навук і цэркваў, што патрэбна вялікая асьцярожнасьць, каб не заблутацца ў гэтым пярэстым лябірынце вераваньняў і змагчы даць ім належную ацэнку, паводле асобных групаў.

Перш за ўсё трэба адзначыць тут таварыства пад назовам „Нямецкі рух веры“, якое мае вялікі грамадзкі ўплыў і ўнясло ў жыцьцё нячуванае брадзжэньне, пасеяла ненавісьць сярод розных вераваньняў і імкнецца да агульнага рэлігійнага перавароту ў цэнтральнай Эўропе.

Дзеля таго, што гэты рух пагражае ўжо ўсяму народу, Папа, з прычыны прызнаньня цудаў, зробленых блаж. Конрадам Пажгама з Баварыі, заявіў, што „неакелзанае расавае вар'яцтва вядзе да высокамерыя, праціўнага духу хрысьціянства і духу чалавечае культуры“. Закляйміў гэтае нова-паганства, хутка пасьля гэтага, і нямецкі Кардынал Пачэльлі, напісаўшы ў пісьме на 25-цьгодзьдзе япіскапства кардынала Шультэ ў Кельне, што „выбіла гадзіна, калі япіскап, на моцы свайго становішча і прысягі, павінен узвысіць свой голас і спытацца: „ці справядліва будзе больш слухаць вас, як Бога?“

Трэба зазначыць, што нова-паганскі рух у Нямеччыне апіраецца на шырокую літэратуру. Ужо дзесяткі гадоў прАходзяць, як прадстаўнікі інтэлектуальнага жыцьця ў Нямеччыне толькі для вока вызнаюць хрысьціянства. Паняцьце аб Богу, як Найвышэйшай Істоце, рабілася, дзякуючы гэтаму, усё больш і больш туманным, эвангельле пачало лічыцца ня больш, як прыгожаю легэндаю, а хрысьціянства — дэкорацыяй жыцьця. Пасьля вайны размножыліся пісьменьнікі, якія цьвердзяць, што дух хрысьціянства ёсьць нешта абасобленае і чужое для нямецкага духу, а праз гэта трэба лічыць яго шкодным для народнага разьвіцьця.

Паводле думак адных з гэтых пісьменьнікаў, асабісты гонар вышэйшы за манашаскую хрысьціянскую пакорлівасьць і ідэалам нямецкае рэлігіі зьяўляецца Гэрой, а не Сьвяты, як ідэал хрысьціянства; паводле думкі іншых, Бог — гэта той бог, каторы родзіцца ў нямецкіх душах і бачыць толькі нямецкімі вачыма, а Хрыстос ня што іншае, як толькі павадыр, што вядзе цераз Нямеччыну дружыну верных ваякаў.

Іншыя яшчэ пішуць (Бэргман), што ня дух стварыў матэрыю, а што матэрыя зрабілася калыскаю духу, ня Бог стварыў чалавека, паводле свае падобнасьці, але што чалавек Бога, паводле свае, — што рэлігія ёсьць чалавечаю выдумкаю і зьяўляецца прадуктам схварэлае расы, і дзеля

гэтага на здаровую нямецкую расу дзейнічае раскладальным спосабам ды затрымала пераможніцкі паход Немцаў у бок Чэхаў і Палякоў.

Трэція пішуць, што трэба выкінуць на сьметнік міфы каталіцкія, жыдоўскія і нават Лютэра, а замест гэтага паставіць на аўтар міф гэроічны, зроджаны дабрароднаю расаю і нямецкаю крывёю, выпешчаны і пільнаваны нямецкаю народнаю царквою.

Паказальным зьяўляецца факт, што ў Нямеччыне ўваскросла сувязь са старадаўнаю міфолёгіяй, уваскрос культ паганскіх бажкоў, асабліва Вотана, Тіна і іншых; Эдда і Сагі складаюць эвангельле новага руху.

Прачуляецца недастача крытыцызму, імкненьне да выкрыўленьня гістарычнае праўды. Ня ўзята пад увагу, што сагі — гэта прадукт раскладу паганства і ў процілежнасьць вынятковасьці нямецкае веры, прызнаюць роўнапраўе расаў і народаў, а знач.: раманцаў, грэкаў, славян, гуннаў і г. д. Эдда, пісаная прозаю, таксама як-бы выяўляе ўплыў хрысьціянства, бо сьмерць Хрыста адбіваецца ў сконе Бальдэра, найлепшага з сыноў Вотана. Дзеля гэтага нельга сказаць, каб новая вера была чыста-паганскаю, яна, — калі так можна назваць, — нова-паганская.

Але і ў пэрыядзе гістарычным мы знаходзім выкрыўленьне праўды: гэтак, Караля Вялікага называюць Каролем Разьнікам, за яго жорсткае навярненьне саксонцаў у хрысьціянства, ды пазбаўляюць яго прозьвішча Вялікага. Процістаўляюць яму саксонскага паганіна Вітукінда, забываючыся, што ён у канцы ўсяго прыняў хрысьціянства. Выхваляюць сярэднявечнага нямецкага містыка Эккегарта, абходзячы моўчкі тое, што ён быў прававерным каталікам.

Але ёсьць і фанатыкі, каторыя ў чэсьць Бальдэра, бога сьвятла і сонца, сымболем якога зьяўляецца свастыка, сьвяткуюць „Iulfest“, або сьвята сонца.

Асноўным догматам новага гітлераўскага веравызнаньня ёсьць расовасьць чыстага нямецкага тыпу і права панаваньня расы над іншымі народнасьцямі.

Гэтай вось расе павінна ўдацца ачышчэньне хрысьціянства ад жыдоўскага элемэнту, як удалося ўжо ачысьціць ад яго палітыку, мастацтва і наагул грамадзкае жыцьцё. Падобным жа спосабам трэба ўхіліць уплыў сьв. Паўла, гэтага „заўзятага прадстаўніка юдаізму“, схіліўшага запраўднае хрысьціянства з яго праўдзівае дарогі і завёўшага ў глухі жыдоўскі тупік; далей—трэба скінуць з сябе трусьлівую „хрысьціянскую“ пакорлівасьць і ўвабраць у сябе пачуцьцё ўласнае годнасьці і расавае гордасьці. Тады, стварыўшы наймагутнейшую Тэўтонскую Імпэрыю, адроджаныя немцы змогуць выпаўніць сваю гістарычную місію.

Ня больш, як 3—4 гады назад, падобныя тэорыі можна было-б лічыць лятуценьнямі. А цяпер да іх ужо нельга адносіцца гэтак лёгкадумна. Гэты нямецка-рэлігійны рух узмацняе напружанасьць барацьбы і ў лоне эвангелічнае царквы мае пасьпех, бо шырока карыстаецца прэсаю, жывым словам на сабраньнях, зьездах, мітынгах, а таксама і протэкцыяй уплывовых асобаў сярод дзяржаўнае іерархіі.

Падыходзячы, гэткім чынам, да найважнейшага пытаньня: як урадовыя сфэры адносяцца да ўсяго гэтага руху, мы пакуль што яшчэ ня можам з пэўнасьцю выказаць сваё апошняе разважаньне, аднак-жа, за апошнія месяцы дыктатарскае ўлады, назьбіралася даволі шмат злавешчых прыметаў.

Знайшлося нямала і каталікоў, каторыя выхваляюць гітлерызм ды падчыркваюць яго „архіхрысьціянскія“ заслугі, а іменна: procідзейнічаньне бальшавізму і лібэралізму, акелзаньне грамадзкае неморальнасьці, адраджэньне сям'і, прабуджэньне народнага духу, у згодзе з хрысьціянска-каталіцкімі асновамі. Некаторыя (д-р Гакэльсбэргэр) цьвердзяць нават, што новы рух абяцае ўвядзеньне асноваў, прагалошваных у энцыкліцы „Quadragesimo anno“, а дзеля гэтага каталікі павінны быць гордымі ад таго, што немцы першыя праводзяць у жыцьцё лёзунгі папскае энцыклікі.

Але як-жа прадстаўляецца ў праўдзівым выглядзе запраўднасьць, пазбаўленая ашуканчых лятуценьняў энтузыястаў ды кар'ерыстых?

Пэўна-ж, нельга сказаць, што ў Нямеччыне вядзецца адкрытая барацьба з Царквою, але нам важна, перш, за ўсё, ведаць, як адносяцца да нова-паганскага руху ўрадовыя сфэры?

Д-р Казімір Кротоскі прыходзіць, у сваей ацэнцы брашуры „Мая барацьба“ („Mein Kampf“) да пераканаьня, што вывады Гітлера, у адношаньні да іншых народаў, спачываюць на тым самым паганскім грунце, на якім стаяў старадаўны Рым, і на якім стаіць цяпер Японія, што імкнецца да заваяваньня Кітаю, і што, хоць Гітлер, як прадстаўнік улады, і заявіў аб сваім спагадлівым адношаньні да хрысьціянскіх веравызнаньняў, але на практыцы гэткія яго асабістыя заявы і дзеяньні яго давераных асобаў не даюць патрэбных гарантыяў.

Перш за ўсё, ня відаць ніякіх натугаў, каб прыцішыць шалёную прапаганду настаўнікаў, якіх, наадварот, назначаюць на асабліва ўплывовыя становішчы. Кніжка „Міф“ вядомага Розэнбэрга зрабілася кніжкай абавязковай у школе. Сур'ёзны езуіцкі журнал „Stimmen der Zeit“ сканфіскаваны за крытыку гэтае кніжкі. Праўда, шалёна настроены проці хрысьціянства, орган Рэвэнтлова быў закрыты, але хутка зьявіўся ізноў, пад іншым назовам. Хрысьціянскія звы-

чаі і абрады перарабляюцца на нямецка-паганскія і нават царкоўныя песьні гэтак сама перарабляюцца, як сьведчыць аб гэтым пародыя на папулярную ў Нямеччыне калядку ‚Stille Nacht, Heilige Nacht“.

Апошнім часам нова-паганскі рух набірае асабліва шырокіх разьмераў і размаху. Вельмі красамоўна пацьвярджаецца гэта тым, што саборнае пісьмо нямецкага япіскапату ў 1934 годзе, у якім япіскапы разважаюць аб тым, што новая вера ёсьць, ні на чым не абапёртаю, чалавечаю выдумкаю і што нова-паганская навука пагражае неспаўненьнем урачыстых абяцанак нямецкага ўраду, — забаронена дзеля агалошаньня з амбоны і дзеля апублікаваньня, забаронена яшчэ і за тое, што ў пісьме адкрыта гаворыцца, што рух гэты — бунт проці Хрыста, Збавіцеля сьвету, найнавейшых паганцаў, каторыя, замест сьв. Літургіі адзінае сусьветнае Царквы, імкнуцца ўвясьці старадаўныя народныя абрады.

Рэлігійна-нямецкі дух новага руху, без сумляваньня, ёсьць памылкаю, якая ня суліць асаблівае доўгавечнасьці. Аднак-жа, тымчасам, ён робіць дзіўныя спусташэньні ў нямецкай душы. Але, калі-б выдзялілася асобная царква натугамі якога-нібудзь адступніка, падобна да Лютэра, дык каталіцызм мог-бы тут аслабіцца ізноў на некалькі стагодзьдзяў. Дзеля гэтага Рым і нямецкі япіскапат узвышае свой голас, з папярэджаньнем аб вялікай небясьпецы, што пагражае, як асобным душам, так і ўсяму народу, з боку нямецкага нова паганскага руху.

---

# Сёмуха ў Берастэчку.

Берастэчка — слаўнае ў гісторыі мястэчка: пад Берастэчкам у 1651 годзе пацярпеў паражэньне Багдан Хмельніцкі.

У каталіцкім касьцёле слаўнага Берастэчка ёсьць цудатворная статуя Спаса, а ў капліцы гэтага касьцёла спачываюць мошчы сьвятога Валентага. Шмат народу, нават здалёк, прыходзіць, асабліва на Вялікае Сьвята Сёмухі, да касьцёла, ня толькі каталікі, але нават і праваслаўныя.

У гэтым годзе на Сёмуху, 19 чэрвеня, сабралася да Берастэчка каля 7 тысяч багамольцаў праваслаўных і каталікоў лацінскага ды ўсходняга абраду. Некаторыя з іх зрабілі вялікую ахвяру, пехатой прайшлі больш як 100 кілёмэтраў.

Па просьбе а. дзекана Зволінскага прыбылі на одпуст сьвяшчэньнікі і ўсходняга абраду: а. Антоні Неманцэвіч з

Дубна і а. Гамалііл Перчэклей з Гумнішч, якія і адслужылі ўрачыстую Сьв. Літургію паводле ўсходняга абраду. Пяяў вельмі прыгожа уніяцкі хор з Жабчы, пад кіраўніцтвам рэгента п. Тэтэрыкоўскага.

З вялікім захопленьнем усе прысутныя выслухалі ўсходнюю Сьв. Літургію і пропаведзь, якую сказаў а. праф. Неманцэвіч у 2 мовах.

Праваслаўныя, бачачы ў спавядальні бацюшку з барадой, хацелі выспавядацца. А калі уніяцкі бацюшка сказаў, што ня можа спавядаць праваслаўных, то прынамсі падходзілі да яго, просячы багаслаўленьня.

У простых людзей, як у праваслаўных, так і ў каталікоў, няма рэлігійнае варожасьці. Можна спадзявацца, што калі папская духоўная сэмінарыя ў Дубне выдасьць добра прыгатаваных місіянэраў, дык хутка праваслаўныя Валыні навернуцца да веры сваіх дзядоў і прадзедаў.

*Злучэнец.*

---

# Хроніка.

## У ПОЛЬШЧЫ.

Дубно. У папскай усходняй сэмінарыі паўсталі перамены ў складзе прафэсароў:

Пакінулі Дубно: 1) а. праф. Язэп Швайгль назначаны духоўнікам да „Руссікум“ ў Рыме; таксама быў і ў сэмінарыі духоўнікам. Кожны ў сэмінарыі вельмі паважаў і любіў Айца духоўнага за яго дабрату і выраблены характар.

2) Паехаў да Любліна на далейшую навуку а. праф. Антоні Сьвятаполк-Мірскі, які вельмі добра вучыў філезофіі. Прафэсары і гадунцы з жалем разьвітаюцца з маладым прафэсарам і жадаюць, каб ізноў калісьці вярнуўся да Дубна.

3) а. Каз. Рачыцкі многа для сэмінарыі зрабіў, прыводзячы ў парадак новую сэмінарскую бібліятэку. Цяпер пакінуў Дубно і паехаў на далейшыя навукі да Любліна.

На месца адходзячых прафэсараў, прыходзяць да Дубна:

1) а. праф. Якуб Мурыльлё, які вяртаецца з трэцяй прабацыі, вядомы ўжо ў Дубне, як вельмі здольны прафэсар. За апошнія часы аб'ехаў Гішпанію, таксама пабываў і ў гэтых краёх з прапагандай вялікай Ідэі Уніі.

2) а. праф. Варшаўскі — скончыў багаслоўскія навукі ў Любліне і прыходзіць да Дубна, на месца а. Мірскага. Новы прафэсар ёсьць выдатная навуковая сіла, асабліва ў фізёзофскіх навуках.

3) Духоўнікам у сэмінарыі, на месца а. Швайгля, назначаны а. Антоні Неманцэвіч, які таксама будзе выкладаць фундамэнтальнае багаслоўе і беларускую мову.

**Луцк.** Да Луцкае эпархіі прыбыло ў гэтым годзе 2 сьвяшчэньнікаў усходняга абраду: а. Язэп Гадуцэвіч, назначаны настаяцелем да Краскі і а. Іоан Волянін, які няведама яшчэ, дзе будзе назначаны; а. Волянін меў труднасьці з пасьвяшчэньнем, бо жанаты, але атрымаў дазвол з Рыму і напэўна, пакуль выйдзе гэты нумар з друку, будзе ўжо пасьвячаны.

**Альбэртын.** Альбэртынская рэзыдэнцыя а. а. Езуітаў падвышана да годнасьці калегіі. В. Рэктарам назначаны а. Станіслаў Ласкі, які таксама будзе і Настаўнікам ў навіцыяце, на месца а. Сьцяпана Сакача.

Настаяцелем прыходу ў Альбэртыне назначаны а. Пётра Бужак, на месца а. Маркела Высакінскага, якога перанясьлі на душпастырскую працу да Дубна.

**Вільня.** У Вільні паўстала рэзыдэнцыя а.а. Езуітаў усходняга абраду (ul. W. Pohulanka 6), Ігуменам назначаны а. П. Мацэвіч, а да помачы яму дадзены а. Іоан Чорнак і брат К. Каньскі.

**Пінск.** На 5, 6 і 7 верасьня г. г. назначана унійная конфэрэнцыя ў Пінску. З рэфэратамі выступяць а. Кірыла, Кіраўнік Конфэрэнцыі, а. Іоан Урбан, а. Я. Варанецкі, а. праф, І· Сьвірскі, а. А. Неманцэвіч і інш.

**Ковель.** У Ковельскай уніяцкай царкве Я. Пр. Уладыка Мікалай ў канцы месяца чэрвеня пасьвяціў у сьвяшчэньнікі езуіта а. Адольфа Шніпа, родам з меншчыны, беларуса. Новаму сьвяшчэньніку рэдакцыя „Да Злучэньня“ жадае шчасьця на „Многія Леты.“

**Вільня.** Сёстры місіянэркі Найсьвяц. Сэрца Ісусавага (ul. Piłsudskiego 22) маюць новую пратаігуменьню м. Вікторыю Дашкевіч, якая за апошнія часы вельмі хварэла, а цяпер ужо вяртаецца да здароўя. Хай Госпад Бог дасьць, каб доўга жыла і працавала на хвалу Божую.

## ЗА ГРАНІЦАЙ.

**Няўдача бязбожніцкай прапаганды ў Расеі.** З 1932 году, у якім бязбожніцкі рух дасягнуў кульмінацыйнага пункту, можна заўважыць, што, ня гледзячы на вострую прапаганду і бязустанныя прасьледаваньні рэлігіі, павялічваецца рэлігійнасьць і разам з гэтым расьце ігнараваньне ўсіх натугаў бальшавіцкіх бязбожнікаў. Часопісь „Безбожник,“

якая ў 1932 годзе друкавалася ў ліку 200.000 экзэмпляраў, скурчылася напалову і выходзіць цяпер у ліку 100.000 экзэмпляраў. Часопісь „Антирелигиозник," замест ранейшых 37.000 экз., выходзіць цяпер толькі ў ліку 12.000 экз. Газэты „Безбожник у станка," „Молодой безбожник," „Воюющий атеизм" зусім ня выходзяць. А тымчасам цэрквы, якія яшчэ там засталіся, перапоўнены вернымі, ня толькі ў старэйшым веку, але і моладзьдзю ды нават чырвонаармейцамі.

**Масонскія лёжы ў Расеі**. Як паведамляе газэта расейскіх эмігрантаў „Возрожденіе," у красавіку месяцы с. г. на тэрыторыі Савецкае Расеі паўстала шэсьць масонскіх лёжаў з Карлам Радэкам на чале. Дасюль бальшавікі глядзелі на масонства, як на саюзьніка капіталістычнага ладу, і належаць да яго было строга забаронена. Афіцыяльна ў Расеі масонскіх лёжаў ня істнуе.

**Партугалія — хрысьціянская дзяржава.** Партугальскі пасол пры Ватыкане заявіў на аўдыенцыі ў Сьв. Айца, што ўсякія рэформы дзяржаўнага ладу, праводжваныя апошнім часам у Партугаліі, маюць на мэце стварыць хрысьціянскую дзяржаву ў поўным сэнсе гэтага слова. Партугальскі ўрад мае пэўнасьць, што гэта яму ўдасца, пры дакладным спаўненьні загадаў Каталіцкае Царквы. Каб ухіліцца ад перашкодаў і ўнутраных непаразуменьняў, Лісабонскі ўрад пастанавіў, зьліквідаваць розныя тайныя таварыствы і ў першую чаргу масонства.

**Гішпанія стварае каталіцкі унівэрсытэт.** З некаторага часу Каталіцкая Акцыя ў Гішпаніі вядзе шырока задуманую справу на карысьць заснаваньня Каталіцкага Унівэрсытэту ў Мадрыдзе. Нядаўна закладзены „Інстытут Боскага Збавіцеля" для настаўнікаў, а таксама і бурса для каталіцкіх студэнтаў. Гэта першыя шагі на шляху да дасягненьня высокае каталіцкае школы. Каталіцкая моладзь у Гішпаніі зьбірае ахвяры на унівэрсытэт ў Гвіэдо. Сабраныя фонды празначаюцца на стварэньне катэдры літэратуры імя вялікага каталіцкага крытыка Мэнэндэс Паляго.

**Ліквідацыя Сьв. Сыноду ў Маскве.** Мітрапаліт Сергій разаслаў у газэты паведамленьне, у якім абвяшчае скасаваньне сьв. Сыноду, а таксама папераджае, што з гэтага часу ён асабіста будзе кіраваць царквою, склікаючы, у выпадку патрэбы, сабор.

**Каталіцкае Таварыства Расейскае Моладзі.** У Лювэне закладзены Саюз Расейскае Каталіцкае Моладзі, які атрымаў багаслаўленьне Св. Айца і кардынала архіяпіскапа з Мэхліна. Саюз, пакуль што, абмяжоўвае сваю працу ко-

ламі расейскае эміграцыі, а ў будучыні маецца служыць рэлігійна-грамадзкай ідэі ў Расеі.

**Турэччына касуе масонства.** З Канстантынопалю паведамляюць, што ў сувязі з пастановаю апошняга конгрэсу Народнае Партыі, якая дамагаецца ліквідацыі ў Турэччыне розных палітычна-грамадзкіх арганізацыяў, з цэнтрамі заграніцай, турэцкі ўрад замерваецца ў найбліжэйшым часе абвясьціць ліквідацыю ўсіх масонскіх лёжаў. Проці гэткіх замераў турэцкія масоны паўстаюць з пратэстам, цьвердзячы, што турэцкае масонства мае выключна толькі нацыянальны характар. З прычыны значнага ўплыву масонства ў Турэччыне, чуткі пра яго ліквідацыю здаюцца непадобнымі да праўды.

**Міжнародны Антымарксыцкі Інстытут ў Жэнэве.** У чэрвені с. г. адбылося ўступнае паседжаньне новага інстытуту пад назовам „Антымарксыцкі Інстытут,“ з удзелам прадстаўнікоў Аўстрыі, Бэльгіі, Бразыліі, Злучаных Штатаў, Францыі, Грэцыі, Голянцыі, Японіі і Швайцарыі. Выбраны старшыня новае інстытуцыі сказаў прамову, у якой падчыркнуў галоўныя мэты Інстытуту, каторы павінен насіць характар інфармацыйнай установы, даючы матар'ял для тых, хто працуе над рэформаю грамадзкага і гаспадарчага ладу. Антымарксыцкі Інстытут будзе мець магчымасьць даказаць шкоднасьць соцыялістычных і камуністычных лёзунгаў, каторыя імкнуцца нібыто даць чалавецтву шчасьце.

**Памятнік Кардыналу Мэрсье пад Брусэлем.** Каля бэльгійскае сталіцы Брусэля адбылася ўрачыстасьць адсланеньня памятніка кардыналу Мэрсье, вялікаму пэдагогу і вучонаму, імя якога абкружае вялікае паважаньне і любоў, ня толькі ў Бэльгіі, але таксама і ў іншых краінах Захаду. У часе ўрачыстасьці, на якой быў кароль з каралеваю, увесь каралеўскі двор, міністры і прадстаўнікі чужаземных дзяржаваў, а таксама і ўсе найвышэйшыя царкоўныя саноўнікі, сказаў высокачулую прамову вядомы грамадзкі каталіцкі дзеяч Картон-дэ-Віяр.



# КУТОК ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



## Дзіця - апостал.

Гэты маленькі апостал — гэта маленькі рыцар Крыжавога Паходу, ці гэтак званае „Круцыяты". Яму яшчэ няма 11-цёх гадоў. Ці ня вельмі вялікае слова для гэткае маленькае асобы? Пэўна-ж, маленькі Юрка ня быў падобным да Готфрыда Бульёнскага, ні да вялікага Апостала народаў — сьв. Паўла, але сэрца, якое прагне і любіць, не заўсёды адпавядае веку: маленькі хлопчык можа мець вялікае

сэрца. Ужо колькі дзён маленькі Юрка мае вялікую няпрыемнасьць. Выходзячы з школы, ён заўважыў, што яго таварашы разглядалі нейкую падазронную кніжку. Адзін з „старшых“ прынёс яе — мусі гэта благая кніжка, таму што ён паказваў яе, тоячыся. Гэты „старшы“ не належаў, нажаль, да Круцыяты, ня быў апосталам і наагул рабіў благі ўплыў на таварышоў. Маленькі Юрка няраз ужо гэта заўважваў, чуў двузначныя анэкдоты, паскудныя словы і няпрыстойныя гутаркі.

Аднойчы ўвечары Юрка неспадзявана падыйшоў да групы з шасьцёх хлопчыкаў, каторыя проста зьядалі вачыма нездаровае чытаньне:

— Што вы гэткае цікавае чытаеце? — спытаўся ён.

— А табе што да таго, даносчык? — адказвае адзін з „старшых“.

Даносчык! Маленькі крыжанос задрыжаў нават ад гэткае зьнявагі. Ён ня мае звычаю выдаваць сваіх таварышоў, або даносіць на іх. Але ён ня трус і адважна стаіць перад таварышамі. Ён павінеч адабраць кніжку і зьніштожыць яе. Ён моцна пачаў прасіць Госпада Ісуса, каб памог яму, і быў пэўны, што Той яго падтрымае. З гэткім саюзьнікам ён нічога не збаіцца. Наперад, бо-ж ён апостал Круцыяты!

У гэты дзень гульня была вельмі рухлівая і для Юркі была ўдачнаю. У яго руцэ каляровыя кулькі, як быццам ажывалі, беглі, выскоквалі, патраплялі звычайна ў мэту. А былі яны харошыя, бліскучыя і меў ён іх цэлую торбачку. Дый, апрача таго, былі яшчэ тры вялікія кулькі, якія ён атрымаў ад старэйшага брата. Лёгка зразумець, што гэтыя скарбы зьяўляліся прадметам пажаданьня для хлопчыкаў. Шчасьце спагадала Юрцы і ён разгарачваўся ўсё больш ды больш, вочкі яго радасна блішчалі, на шчочках гарэў румянец задаволеньня, вясёлы сьмех разьлягаўся штомінуты. Раптам яму прыпомнілася кніжка. Радасны настрой прапаў. Твар яго зрабіўся паважным. Кніжка схавана ў кішані ў аднаго з таварышоў, а ўвечары ён будзе чытаць яе, тоячыся. Не — трэба адважна пайсьці ў атаку!

— Даражэнькія, — кажа ён, спыняючы гульню, — я ведаю, што ў вас ёсьць гнюсная, неморальная кніжка. Вам нельга яе чытаць. Калі яна ў вас тут, дык аддайце яе, прашу вас.

Насьмешкі і кусьлівыя жарты былі адказам.

— Хочаш атрымаць яе, а што нам за яе дасі?

— А што-ж я магу вам за яе даць?—пытаецца Юрка.

— Твае кулькі.

— І каляровыя таксама, — дадае други.

— А таксама і вялікія, — кажа трэці.

Мінута хістаньня, — усе гэтыя скарбы, гэткія дарагія, за адну кніжку? У хлопчыка стаяць на вачох сьлёзы; стры-

маў іх сілаю волі, змоўк. А тыя насьмешліва, згары неяк паглядаюць. Проста, як барацьбіты, стаяць адзін проці аднаго, — бязустанная барацьба дабра і зла. Але хістаньне было нядоўгае. Юрка важна і спакойна перадае торбачку з усім, што ёсьць у ёй, сваім таварышом. Зьдзіўленыя, яны аддаюць яму кніжку і бяруць булькі, ужо не сьмяюцца і ня зьдзекуюцца.

Маленькі крыжанос вяртаецца дамоў, крыху зьбялелы, таму што ўсё гэта каштавала яму дорага. Але ён шчасьлівы, бо гэта самы найбольшы выйгрыш. У куточку саду ён зьбірае сухое гальлё, запальвае агонь і там гарыць згубная, шкодная кніжка. Надходзіць ціхая ноч, паказваецца першая зорка. А добры Ісус глядзіць і ўсьмяхаецца — 11-цьгадовы хлопчык выказаў гэройства для Яго. У будучыні гэта будзе вельмі добры і верны каталік.

---

## Усячына.

— Папяровыя дзесяцьзалатоўкі (ужо ўзятыя з абегу) з датаю 20-га ліпня 1926 г. і 1929 г. будуць выменьвацца Польскім Банкам да 31-га сьнежня 1937 га году. А папяровыя дваццацьзалатоўкі з датаю 1-га сакавіка 1925 г. і 1-га верасьня 1929 г.можна выменьваць да 30-га чэрвеня 1939 г.

— У Злучаных Штатах польская мова выкладаецца цяпер у 10 унівэрсытэтах і 25 сярэдніх школах.

— Латвійскі паляк, Эмануэль Котульскі, 13 траўня 1925 г. выехаў на мотоцыклі ў падарожу вакол сьвету. Праехаў ужо 24 дзяржавы, зрабіўшы больш як 150.000 кілёмэтраў дарогі.

— Жыхар вёскі Ленева, берасьцейскага павету (Палесьсе) 80-гадовы В. Такеля, стаў бацькай 29-га дзіцяці. Усе яго дзеці жывуць і зьяўляюцца здаровымі.

— У Бэлюджыстане (Індыя) 31-га траўня с. г. было моцнае землятрасеньне. Забітых каля 50 тысяч. Найгорш пацярпела места Квэтта, маючы 35 тысяч жыхароў, з якіх 26 тысяч знайшлі сьмерць пад руінамі.

— Найхутчэй пераехаў праз Атлянтычны акіян найбольшы француcкі, а таксама і сусьветны, карабель „Нормандыя,"дайшоўшы да берагоў Амэрыкі з Эўропы за 4 дні і 3 гадзіны і едучы, у сярэднім, па 54 з паловаю кілёмэтры ў гадзіну.

— Вядомы вынаходчык Марконі збудаваў прыладу, якою можна будзе затрымліваць, пры помачы электрычных хваляў, самаходы.

— Гігіеністыя сьцьвярджаюць, што пудра ёсьць грознаю разносчыцаю бактэрыяў.

— Жабракі ў Парыжы выдаюць сваю ўласную газэту, якая піша пра іхняе жыцьцё.

— Францыя налічвае цяпер 42 мільёны жыхароў, г. знача столькі сама, як і ў 1927 годзе. З гэтага відаць, што ў францускай рэспубліцы не прыбывае людзей.

— Амэрыку наведала вялікая паводка. У штаце Окляпама вада заліла каля 20 тысяч акраў, у штаце Тэксас каля 125 тысяч. Больш як 4 тысячы сем'яў засталося без страхі над галавою.

— Селянін Велях з мясцовасьці Горн (Аўстрыя) ў працягу больш як сту гадзін напісаў на паштовай картачцы тэкст Старога Закону, які зьмяшчае каля 33.000 словаў. Пішучы карыстаўся канцом вярблюдовага воласу. Тэкст Сьв. Пісьма можна прачытаць толькі праз павялічальнае шкло.

— У Англіі нядаўна памёр вядомы мовавед а. д-р Вільям-Гэнры Кэнт з Таварыства Облятаў. Ён знаў 54 мовы.

Бэрлінскі хімік Вільлі Арэтц знайшоў спосаб вырабляньня ізоляцыйных плітаў з... сьмяцьця.

— У 1935 годзе на ўсім сьвеце дабыта бульбы 1.518 мільёнаў квінталяў. Першае месца ў гэтай прадукцыі займае Нямеччына (467 мільёнаў квінталяў), другое—Польшча (318 міл. квінт.).

— Францускі інжынер Ле-Вітс сконструяваў ношы дзеля пераносу раненых у часе газавай атакі. Ношы зробленыя з алюміну і падобныя да скрынкі. Як толькі века замкнецца, дык пачынае дзейнічаць апарат, дастаўляючы ў сярэдзіну ачышчанае ад газаў паветра.

— Нядаўна ў Даніі адкрылі вялікі мост, які злучае Ютляндыю з вострвам Фюнэн. Мост гэты будавалі 6 гадоў і каштаваў ён 60 мільёнаў дацкіх кронаў.

— У Нямеччыне вынайдзены апарат дзеля паліваньня палёў у часе засухі. Апарат гэты, будучы пастаўленым у адным месцы, можа паліць вадою каля 10-цёх дзесяцін.

— У Англіі, у сярэднім, памірае ад самаходных катастрофаў 146 чалавек на тыдзень, а 3.400 чалавек бывае раненых.

— Ваколіца Кэчкэмэт, ў Вэнгрыі, вядомая прадукцыяй фруктаў і гародніны, 31-га траўня с. г. была пабіта градам, велічынёю з гарэх і нават з курачае яйко. Град ішоў паўгадзіны і пакрыў зямлю слоем у 15 сантымэтраў. Палі і сады зусім зьніштожаны на 100 тысяч маргоў. Стратаў налічваюць на 20 мільёнаў вэнгерскіх пэнгаў.



# Календар

на м—ц Жнівень 1935 г.

**Стары стыль.** **Новы стыль**

| Календ. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kalend. niadz. i św. łacin. abr. | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | С | Пах. С. К , Мч. Макавеяў | 14 | S | *Wialeja.* Aŭsieja |
| 2 | Ч | Пер. мошч. Сьв. Сьцяп. | 15 | Č | **Uniebaŭziaćcie Dz. Maryi** |
| 3 | П | Ісаака Далмацк. | 16 | P | Jachima—baćki N. Dz. M. |
| 4 | С | 7 сьв. Айцоў з Эфэсу. | 17 | S | Jaceka, Mirona, Paŭła |
| 5 | Н | **Н. 9 па С.** Аўсігнія | 18 | N | Aleny. |
| 6 | П | **Праабраж. Госпад.** | 19 | P | Ludwika, Marjana |
| 7 | А | Дамэтыя | 20 | A | Bernarda, Ściapana |
| 8 | С | Амільяна | 21 | S | Ioanny, Franciški |
| 9 | Ч | Мацьвея | 22 | Č | **7 radaściaŭ M. B.**, Cim. |
| 10 | П | Лаўрына | 23 | P | Pilipa, Zachieja |
| 11 | С | Евела і Гая пап. Р. | 24 | S | Baŭtramieja apost. |
| 12 | Н | **Н. 10 п. С.** Фоція і Анік. | 25 | N | Ludwika |
| 13 | П | Максіма | 26 | P | M. B. Jasnahorskaj |
| 14 | А | Міхея | 27 | A | Paciašeńnia N.M.B., Jaz. |
| 15 | С | **Усьп. Прасьв. Багар.** | 28 | S | Aŭhustyna, Hermana |
| 16 | Ч | Пер. Нярук. Абр. Госп. | 29 | Č | Ściaćcie haławy św. J.Ch. |
| 17 | П | Мірона | 30 | P | Feliksa. Rozy |
| 18 | С | Флора | 31 | S | Rajmonda, Paŭlina |
| | | | | | WERASIEŃ. |
| 19 | Н | **Н. 11 па С.** Андрэя Стр. | 1 | N | Branisławy |
| 20 | П | Самуіла | 2 | P | Ściapana |
| 21 | А | Тадэя ап. | 3 | A | Symona, Zenona, Izabeli. |
| 22 | С | Агафоніка | 4 | S | Razalii, Rozy, Marcela |
| 23 | Ч | Лупа муч. | 5 | Č | Łaŭryna i Justynijana |
| 24 | П | Аўціхея | 6 | P | Aŭhiena i Zachara |
| 25 | С | Варфаламея | 7 | S | Melchijoła, Reginy |
| 26 | Н | **Н. 12 па С.** Адрыяна | 8 | N | **Naradž. Św. Dz. Maryi** |
| 27 | П | Пімана і Лічэрыя пап.Р. | 9 | P | Piotry Klawera, Siarhieja |
| 28 | А | Майсея Мурына | 10 | A | Mikoły z Talentynu |
| 29 | С | **Сьц. гал. Іоана Хрысьц.** | 11 | S | Prota i Jaceka muč. |
| 30 | Ч | Аляксандра, Іоан. і Паўла | 12 | Č | **Im. N. Dz. Maryi** |
| 31 | П | Пал. Паяса Пр. Дз. | 13 | P | Pilipa, Aŭhieńni |

*Przesyłka opłacona ryczałtem.*

# Календар

на м—ц Верасень 1935 г.

| Стары стыль | | | Новы стыль | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Кал. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kal.niadz. i światy łac. abr. | | |
| 1 | С | Сымона Стоўпніка | 14 | S | **Uźwižańnie św. Kryža.** |
| 2 | Н | **Н. 13 па С.** Маманта | 15 | N | **M. B. Balesnaj.** Taresy |
| 3 | П | Анфіма | 16 | P | Karnela i Cypryjana muč. |
| 4 | А | Вавілы | 17 | A | Styhmataŭ św. Franciška |
| 5 | С | Захара і Альжб. | 18 | S | *Suchi dzień.* Jazepa z K. |
| 6 | Ч | Цуда Арх. Міхала | 19 | Č | Januaryja i taw. muč. |
| 7 | П | Сазона | 20 | P | *Suchi dzień.* Aŭstachieja |
| 8 | С | **Нар. Прасьв. Багародз.** | 21 | S | *Suchi dzień.* Mateuša ap. |
| 9 | Н | **Н. 14 па С.** Якіма і Ган. | 22 | N | Tamaša |
| 10 | П | Мінадоры, Мітр. і Німф. | 23 | P | Lina, Tekli |
| 11 | А | Хвядоры | 24 | A | M. B. Adkup. z niawoli |
| 12 | С | Аўтанома | 25 | S | Uładysława z Gielniowa |
| 13 | Ч | Карніла сотн. | 26 | Č | Cypryjana i Justyny |
| 14 | П | **Узьдзьвіж. Кр. Гасп.** | 27 | P | Kuźmy i Dziamjana |
| 15 | С | Мікіты | 28 | S | Wacława |
| 16 | Н | **Н. 15 па С.** Людмілы мч. | 29 | N | *Michała Archan* |
| 17 | П | Зофіі. Веры, Н. і Л. | 30 | P | Haronima |
| | | | | | KASTRYČNIK |
| 18 | А | Ямена | 1 | A | Jana z Dukli. Remihija |
| 19 | С | Трахіма і Сав. | 2 | S | Aniołaŭ Wartaŭnikoŭ |
| 20 | Ч | Аўстахія і інш. | 3 | Č | *Teresy ad Dz. Isusa.* Kan. |
| 21 | П | Кадрата | 4 | P | Franciška Serafickaha |
| 22 | С | Фокі | 5 | S | Placyda i taw. muč. Fl. |
| 23 | Н | **Н. 16 па С.** Пач. сьв. Іоан. | 6 | N | Brunona, Artura, Emila |
| 24 | П | Тэклі | 7 | P | M. B. Ražancowaj. Mar. |
| 25 | А | Еўфрасіні | 8 | A | Palahiei, Bryhidy |
| 26 | С | Іоана Багаслова | 9 | S | Ludwika, Dzianisa |
| 27 | Ч | Калістрата і Вяч. | 10 | Č | Franciška Bordžia |
| 28 | П | Харытона | 11 | P | Placydy, Zinaidy |
| 29 | С | Кірыяка | 12 | S | Maksimiljana, Ludwika |
| 30 | Н | **Н. 17 па С.** Грыгора | 13 | N | Adwarda |

Рэдактар а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.